Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ
## НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА

г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 405.

тэл. № 23-287.

№ 15 | Год выдання 1-ы | 22 мая 1935 г. | № 15

## Узорна арганізаваць гандаль прахладжальнымі напіткамі

Справа арганізацыі гандлю прахладжальнымі напіткамі у бягучым годзе павінна быць перабудавана карэнным чынам на прынцыпах культурнага савецкага гандлю у адпаведнасці з пастановамі СНК БССР ад 7 і 28 лютага 1935 г.

Гэтыя пастановы значна пашыраюць аб'ём гандлю прахладжальнымі напіткамі, прадугледжваючы такі план рэалізацыі піва і безалкагольных напіткаў, які поўнасцю забяспечвае патрэбнасць насельніцтва.

Так, па Менску замест 152 адзінак па гандлю гэтымі напіткамі намечана арганізаваць 198, па Гомелю—замест 99—139, па Бабруйску—замест 23—36 і т. д.

Арганізацыя гандлёвай сеткі пойдзе па лініі яе спецыялізацыі і адчынення ўзорных магазінаў. Такіх магазінаў намечана арганізаваць па Менску—40, па Віцебску—20 і па Гомелю—20.

Акрамя безалкагольных напіткаў (квас, сітро і інш.) прадугледжваецца разгортванне продажу мінеральных вод (Баржом, Нарзан, Эсентукі і т. д.).

Устаноўка сатуратараў (па Менску—16 штук, па Гомелю—3) забяспечвае бесперабойнае снабжэнне працоўнага насельніцтва гэтых гарадоў газіраванай вадой.

Упяршыню у гэтым годзе распрацован канкрэтны план па вырабу і рэалізацыі марожанага па лініі Белкаапмалако у колькасці 100 тон па Менску, 35 тон па Віцебску і 25 тон па Гомелю.

Такі разварот гандлю прахладжальнымі напіткамі у гэтым годзе абавязвае гандлюючыя арганізацыі паставіць гэтую справу такім чынам, каб магазіны, кіоскі і ларкі па свайму абсталяванню і знадворнаму афармленню адпавядалі патрабаванням культурнага савецкага гандлю і каб продаж напіткаў у халодным відзе быў бы поўнасцю забяспечан.

Перад вытворчымі арганізацыямі пастаўлена не менш адказная задача павышэння якасці прадукцыі і яе асартымента з такім разлікам, каб квасы складалі ў агульнай праграме не менш 35 проц., воды 30 проц. і газіраваныя 35 проц., прычым газіраваныя воды ў значнай сваёй частцы павінны прадавацца ў бутэльках, што ў мінулым годзе ўparта ігнаравалася вытворчымі арганізацыямі.

Друкуемыя ў сёняшнім нумары Бюлетэня правілы гандлю прахладжальнымі напіткамі ствараюць усе ўмовы для бесперабойнага і культурнага задавальнення спажыўца гэтымі напіткамі.

Штодзённы кантроль за выкананнем гэтых правіл, які апіраецца на пролетарскую грамадскасць,—вось тая задача, якая стаіць перад усімі арганізацыямі, гандлюючымі прахладжальнымі напіткамі.

К. Р.

## Рашуча змагацца з парушыцелямі пастановы ўраду аб цэнах на масавыя абеды

Публікуемае ў гэтым нумары Бюлетэня рашэнне Наркамунутгандля БССР ад 11/V—1935 г. аб выніках вытворанай Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыяй праверкі выканання пастановы СНК ад 28 лютага 1935 г. „Аб цэнах на абеды і школьныя снеданні“ паказвае на тое, што рад сталовых ігнаруе гэтую важнейшую пастанову Ураду.

Сталовая хімфармзавода (загадчык сталовай т. ВАРАКСА) яшчэ да гэтага часу не ўвяла стандартных цэн на абеды, прытрымліваючыся ранейшай практыкі самавольнага ўстанаўлення цэн на адпускаемыя абеды.

Сталовая малочнага завода неаднаразова прадавала па 75—80—84 кап. абед, які павінен каштаваць 70 кап., сталовая хлебазавода замест 1 р. 10 к., прадавала па 1 р. 12 к.—1 р. 13 к. і т. д. Самавольна зменшаюцца нормы закладкі прадуктаў, змяншаецца колькасць мясных дзён у месяц, памяншаецца каларыйнасць абедаў за кошт перавыхада блюд.

Усё гэта сведчыць аб тым, што паасобныя кіраўнікі сталовых недаацанілі папярэджання СНК аб тым, што ўсякае парушэнне цэн на абеды і школьныя снеданні павінна карацца, згодна закона ад

25/VII—1934 г., як „за парушэнне цэн і абважванне спажыўца“.

Паказаныя факты парушэння сведчаць таксама аб тым, што Белкаапхарч, Менкаапхарч, ОРС'ы, адміністрацыя прадпрыемстваў і ФЗМК не наладзілі сістэматычнага кантроля за выкананнем сталовымі пастановы СНК, не арганізавалі рабочага кантроля і т д.

Адпаведнага кантроля не было таксама і з боку органаў Наркамунтгандля на мясцох.

Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР ад 11 мая 1935 г. з'яўляецца для ўсіх арганізацый рашучым папярэджаннем аб тым, што далейшыя парушэнні пастановы СНК БССР будуць карацца самым суровым чынам.

Толькі сапраўды наладжаны кантроль, як з боку адміністрацыі прадпрыемстваў, так і з боку грамадскасці можа забяспечыць поўнае правядзенне ў жыццё пастановы СНК БССР аб грамадскім харчаванні.

**Берхін.**

# ВЫТВОРЧАЯ ХРОНІКА

## Мясцовая прамысловасць павялічвае выпуск тавараў шырспажыва

Пасля 4-х гадовага перапынку галантарэйная фабрыка імя Фрунзэ аднаўляе вытворчасць палатняных гузікаў—самых практычных гузікаў для бялізны. Для гэтага ўстанаўліваецца адпаведнае абсталяванне, якое да гэтага часу было закансервіравана. Частка сыравіны (каляровыя металы) ужо атрымана. Прыблізна праз месяц цэх будзе пушчан у ход. Ужо ў гэтым годзе будзе выпушчана 2000—2500 тысяч штук гузікаў.

* * *

На Гомельскай чулочна-трыкатажнай фабрыцы ўстанаўліваецца 16 машын сістэмы „Томкінсон“. У параўнанні з мінулым годам будзе павялічан выпуск верхняга трыкатажа з 27,2 тыс. штук да 36 тыс. штук і трыкатажнай бялізны з 347 тыс. штук да 404 тыс. штук.

* * *

На менскай чулочнай фабрыцы ўстанаўліваюцца новыя аўтаматы, швейныя і інш. машыны. Будзе павялічан выпуск пальчатак да 5С0 тыс. пар замест 125 тыс. пар у мінулым годзе. Насочна-чулочных вырабаў будзе выпушчана 1.900.000 пар замест 1.584.000 пар у мінулым годзе.

## Узмацніць сувязь з секцыямі і дэпутацкімі групамі советаў

Нарком Унутранага Гандлю БССР т. Гурэвіч даў указанне усім Горрайунутгандлям аб тым, каб усе масавыя праверкі і рэйды, якія праводзяцца органамі НКУГандля на мясцох, як выяжджаючымі работнікамі цэнтральнага апарата, так і работнікамі месц—абавязкова праводзіліся сумесна з адпаведнымі секцыямі советаў і дэпутацкімі групамі на прадпрыемствах, у калгасах, соўгасах і т. д.

Неабходна аказваць практычную дапамогу секцыям советаў у выпрацоўцы планаў работы, у якіх прадугледжваць усе важнейшыя пытанні разгортвання совецкага гандлю і мерапрыемстваў па выкананню плана тавараэвароту.

Як правіла, вынікі праводзімых праверак і рэйдаў па гандлёвым прадпрыемствам і прадпрыемствам грамадскага харчавання павінны быць абавязкова абмеркаваны на пасяджэннях адпаведных секцый советаў.

## „Аб прападаючай сыравіне для вытворчасці некаторых тавараў шырспажыва“

### Пісьмо ў рэдакцыю Гандлёвага Бюлетэня.

У звязку з заметкай „Аб прападаючай сыравіне для вытворчасці некаторых тавараў шырспажыва“ паведамляем, што арцелі-Мэталапрамсаюза (Орша, Віцебск, Полацк, Магілёў і інш.) скарыстоўваюць кансервныя банкі для выпрацоўкі розных рэчаў шырспажыва.

Намі неаднаразова ставілася пытанне перад кіраўніцтвам гандлёвай сеці БССР аб арганізацыі па крамах збора кансервных банак шляхам узімання пры продажу кансерваў залога за кожную банку ў размеры 10—15 кап. з умовай звярота грошай пры здачы банак.

Аднак, трэба адзначыць, што Белкаапсаюз не аказаў нам дапамогі ў гэтай справе і збор банак па крамам не арганізаван.

Старшыня прэзідыума Белкааппромсовета
**Беньковіч**

**Ад рэдакцыі:**

Рэдакцыя Гандлёвага Бюлетэня лічыць, што калі-б Белкааппромсовет прыняў энергічныя меры, безумоўна, можна было-б дабіцца шырокага разгорнутага збора кансервных банак.

Наркамунутгандаль паведамляе, што прапанавана гандлюючым арганізацыям прыступіць к заключэнню дагавароў з Белмэталапрамсаюзам на збор гэтых банак.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Правілы гандлю прахладжальнымі напіткамі, півам і марожаным

### Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

7 мая 1935 г. № 205 г. Менск.

У адпаведнасці з рашэннем Саюзнаркамунутгандлю загадваю:

1. Усім гандлюючым арганізацыям: дзяржаўнага гандля, спажыўкааперацыі, ОРСам, саматужна-прамысловай кааперацыі, Белхарчпромсаюзу і кааперацыі інвалідаў, якія гандлююць прахладжальнымі напіткамі, півам і марожаным ў ларках, кіосках і павільёнах строга прытрымлівацца ў практычнай рабоце правіл гандлю гэтымі напіткамі.

2. Прапанаваць усім цэнтрам гандлюючых арганізацый давесці гэтыя правілы да кожнага ларка, кіоска і павільёна, якія прадаюць прахладжальныя напіткі, піва і марожанае.

3. Абавязаць усе гандлюючыя арганізацыі з атрыманнем гэтай пастановы, таксама правіл, зацверджаных Наркамунутгандлем Саюза, прасачыць за выкананнем п. п. 3 і 4, якія абавязваюць прадаўцоў ларкоў, кіоскаў і павільёнаў неадкладна прайсці медыцынскі агляд, без якога прадаўцы ня могуць быць дапушчаны да продажу гэтых прадуктаў, пасля чаго кожны прадавец абавязан мець пры сабе санітарны паспарт.

4. Даручыць Дзяржаўнай гандлёвай інспекцыі-асабіста т. ТАЛКАЧОВУ ўстанавіць асобны нагляд над праводзеннем у жыццё гэтых правіл.

5. Абавязаць усе гандлюючыя арганізацыі, якія ўстанаўліваюць сатуратары, раней чым пускаць іх у эксплаатацыю прыняць меры да поўнай абеззаражанасці прапускаемай вады, з абавязковым аглядам сан. урачамі і толькі з дазволу апошніх дапускаецца продаж газіраванных вод.

6. Асабліва звярнуць увагу на тое, каб воды прадаваліся толькі ў халодным стане, не дапускаючы ў гэтых адносінах ніякіх адступленняў.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Гурэвіч**

---

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Унутранага Гандля СССР

29 красавіка 1935 г. № 318 г. Масква.

1. Зацвердзіць прыкладаемыя пры гэтым правілы гандлю прахладжальнымі напіткамі, півам і марожаным у ларках, кіосках і павільёнах.

2. Увесці ў дзеянне гэтыя правілы з дню апублікавання.

Народны Камісар Унутранага Гандлю СССР **Вейцэр**

---

## ПРАВІЛЫ

### гандлю прахладжальнымі напіткамі, півам і марожаным у ларках, кіосках і павільёнах.

1. Адкрыццё ларкоў, кіоскаў і павільёнаў для гандля прахладжальнымі напіткамі, півам і марожаным дапускаецца толькі з дазволу органаў санітарнага нагляда. Паказаны дазвол павінен вывешвацца ў ларках, кіосках і павільёнах у рамцы пад шклом.

2. Забараняецца адкрыццё ларкоў, кіоскаў і павільёнаў для гандлю прахладжальнымі напіткамі, півам і марожаным бліжэй, чым на 50 метраў ад грамадскіх прыбіральняў і 200 метраў ад складаў жывотнай сыравіны, уціля і пастаялых двароў.

3. У продаж дапускаюцца прахладжальныя напіткі і піва выключна прадпрыемстваў, якія маюць дазвол на выраб ад санітарных органаў па месцу знаходжання прадпрыемства, прычым бутэлькі павінны мець этыкеткі, а бочкавая тара—паспарты, з паказаннем у іх даты водпуска прадукцыі заводам.

4. Разам з прахладжальнымі напіткамі, півам і марожаным дазваляецца толькі гандаль кандзіцерскімі вырабамі і здобай, якія павінны захоўвацца ў шкляных вітрынах.

5. Продаж прахладжальных напіткаў і піва ў развоз дапускаецца выключна ў развозных сатуратарах і цыліндрах, або ў закрытай шклянай пасудзіне з этыкеткай прадпрыемства, выпусціўшага прахладжальны напітак ці піва.

Пры продажу прахладжальных напіткаў і піва у развоз, бутэлькі з напіткамі павінны стаяць на ўзвышэннях (стойках, лаўках) ня ніжэй 0,75 метра ад зямлі.

6. Плошча ларка, кіоска ці павільёна, гандлюючых прахладжальнымі напіткамі, півам і марожаным, павінна быць такіх размераў, каб на кожнае рабочае месца прыходзілася ня менш 2 кв. метраў.

7. Кожнае прадпрыемства, якое гандлюе прахладжальнымі напіткамі, півам і марожаным, незалежна ад колькасці прадаўцоў, павінна мець падсобнае памяшканне, якое забяспечвае хаванне аднадзённага запаса.

8. Сцены, падлогі і паталкі павінны быць без шчылін. Сцены, столікі, стойкі павінны быць афарбаваны маслянай фарбай, а полкі, акрамя гэтага, павінны быць пакрыты лінолеумам ці цыратай.

9. Пры наступленні цемнаты ларкі, кіоскі і павільёны павінны быць асветлены.

10. Сатуратары і іншыя апараты, якія ўжываюцца пры гандлі прахладжальнымі напіткамі і півам, павінны мець унутраныя сценкі, лужоныя чыстым алавам, ці пасярэбраныя, а злучальныя трубкі павінны быць алавяныя, гумавыя ці медныя лужоныя.

Олава для палуды не павінна утрымліваць больш 1 проц. свінца.

11. Пасуда для піцця, стаканы і кружкі дапускаюцца толькі шкляныя, з роўнымі краямі, без зарубін, шэрахаватасцей і трэшчын.

12. Апаласкванне пасуды для піцця павінна праводзіцца выключна механічнымі прыладамі (шпрыцы з надворнай і ўнутранай абмыўкі), непасрэдна перад кожным яе напаўненнем у прысутнасці спажыўца.

Апаласкванне пасуды для піцця ў якой-бы там ні было пасудзіне (вёдрах, тазіках і інш.), а таксама карыстанне вадой, якая была ў спажыванні, для мыцця пасуды—забараняецца.

13. Каб унікнуць папсавання прахладжальных напіткаў і піва—яны павінны завозіцца ў летні час пакрытымі брэзентам, а зімой пакрытыя коўдрамі.

34. Запасы прахладжальных напіткаў і піва ў ларках, кіосках і павільёнах не павінны перавышаць сутачнай патрэбнасці.

15. Забараняецца перакачванне прахладжальных напіткаў і піва з таварных бочак у іншую тару. Водпуск дазваляецца толькі з бочак пры дапамозе насоса ці пад ціскам газу.

16. Хаванне прахладжальных напіткаў і піва на сонцы ні ў якім разе недапускаецца. У кожным ларку, кіоску і павільёне абавязкова павінен быць лёд, які забяспечыў бы продаж прахладжальных напіткаў, піва і марожанага ў халодным стане.

Забараняецца ахладжэнне прахладжальных напіткаў і піва шляхам пагружэння ў іх льду. Лёд павінен утрымлівацца не ў той тары, у якой знаходзяцца прахладжальныя напіткі ці піва.

17. Выстаўка прахладжальных напіткаў і піва забараняецца. Выстаўка павінна быць выключна бутафорнай.

18. Ахладжэнне прахладжальных напіткаў і піва ў бочкавай тары праводзіцца шляхам устаноўкі змеевікоў і балончыкаў, абкладзеных льдом.

19. Забараняецца па сканчэнні гандля астаўляць ваду ў сатуратарах да наступнага дня.

20. Бочкі пасля іх апаражнення павінны абавязкова закупорвацца пробкамі.

21. Кандзіцерскія вырабы і здоба ў ларках, кіосках і павільёнах павінны быць захованы ад магчымага загразнення шляхам пакрыцця марляй.

22. Тэмпература прадаваемых прахладжальных напіткаў і піва не павінна перавышаць плюс 8° Цэльсія.

23. Марожанае можа адпускацца толькі пры ўмовах, якія забяспечваюць мыццё пасуды і лыжак гарачай вадой; пры адсутнасці-ж гарачай вады марожанае можа адпускацца толькі ў вафлях ці ў спецыяльнай упакоўцы.

24. Водпуск кандзіцерскіх вырабаў і здобы павінен праводзіцца выключна саўком ці шчыпцамі.

25. У выпадку выяўлення прахладжальных напіткаў і піва ў папсаваным відзе, прадавец абавязан, не адпускаючы іх спажыўцу, выклікаць прадстаўніка гандлюючай арганізацыі, у веданні якой прадпрыемства знаходзіцца, для складання акта, з паказаннем часу атрымання недобраякаснага тавара.

26. У выпадку продажу заведама недобраякаснай прадукцыі ці фальсіфікацыі, прадавец прыцягваецца да судовай адказнасці.

27. Прэйскурант з цэнамі на тавары, якія маюцца ў ларку, кіоску і павільёне, павінен быць у надрукаваным і чотка напісаным відзе вывешан на відным месцы.

28. Выручаемыя ад прадажы грошы павінны захоўвацца у спецыяльнай грашовай скрынцы. Хаванне грошай на прылаўку забараняецца.

Ня менш аднаго раза ў дзень грашовая выручка павінна здавацца ў парадку, устаноўленным гандлюючай арганізацыяй, у веданні якой знаходзіцца прадпрыемства.

29. У кожным прадпрыемстве якое гандлюе прахладжальнымі напіткамі, півам і марожаным, павінна быць кніга скаргаў і прапаноў, якую прадавец павінен прад'яўляць па першаму патрабаванню пакупца.

30. Нагляд за чыстатой і ўтрыманнем у парадку тэрыторыі, якая прымыкае непасрэдна да ларка, кіоска і павільёна, ўскладаецца на прадаўца.

31. Ларок, кіоск і павільён павінны ўтрымлівацца ў поўнай чыстаце: незалежна ад штодзённай уборкі, якая заключаецца ў дакладнай чыстцы з дапамогай мокрай анучы паталка, сцен, прылаўка і сцёкал ад пылу і ў мыцці падлогі—адзін раз у шасцідзёнку павінна праводзіцца генеральная ўборка шляхам ачысткі мелам ці іншым ачысцілем усіх металічных частак абсталявання і мыцця гарачай вадой усяго памяшкання і пасуды.

32. Забараняецца: ў ларку, кіоску і павільёне-а) прыгатаўляць ці прымаць гарачую яду; б) курыць і нюхаць табак; в) хаваць пабочныя рэчы; г) класці на падлогу харчы ў адкрытай тары.

33. Прадавец абавязан, прыступаючы да работы—вымыць рукі і апрануцца ў сан. вопратку, а прыступаючы да ўборкі, да работы з тарай, адлучаючыся ад ларка, кіоска і павільёна, пры прыёме тавараў і т. д.—зняць сан. вопратку.

34. Прадаўцы ларкоў, кіоскаў і павільёнаў ня могуць быць дапушчаны да работы без папярэдняга медыцынскага агляда. Акрамя гэтага яны штомесячна абавязаны праходзіць медыцынскі агляд. Кожны работнік, які прайшоў мед. агляд, павінен мець пры сабе асабісты санітарны паспарт.

35. Верхняя вопратка прадаўца павінна захоўвацца ў асобных шафах ці скрынках, якія плотна закрываюцца.

36. Ва ўсіх ларках, кіосках і павільёнах павінен быць рукамойнік, мыла, чысты ручнік і шчотка для мыцця рук.

37. Прадаўцы павінны быць апрануты у белую сан. вопратку (фартук і нарукаўнікі ці халат) і насіць галаўны ўбор.

УВАГА: На кожнага прадаўца павінна быць не менш 3-х камплектаў сан. вопраткі.

38. Прадавец павінен утрымліваць рукі ў чыстаце і мець чыстыя і коратка астрыганыя ногці.

39. У кожным ларку, кіоску і павільёне павінна быць санітарная кніжка.

40. Акрамя вывескі з абазначэннем гандлюючай арганізацыі, якой павінен быць забяспечан кожны ларок, кіоск і павільён, на відным месцы павінна быць вывешана таблічка з паказаннем прозвішча прадаўца.

41. Гандлюючая арганізацыя павінна забяспечыць давядзенне гэтых правіл да прадаўца прахладжальных напіткаў, піва і марожанага.

42. Усе прадаўцы прахладжальных напіткаў, піва і марожанага абавязаны прайсці курс сан. тэхмінімума.

43. Нагляд за выкананнем гэтых правіл ускладаецца на органы сан. інспекцыі і Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі.

---

# Максімальна ўцягнуць у таваразварот прадукцыю промкааперацыі і мясцовай прамысловасці

## Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

8 мая 1935 г. **№ 212** г. Менск.

За апошні час ўстаноўлен рад фактаў, калі гандлюючыя арганізацыі зусім слаба ўцягваюць у таваразварот прадукцыю промкааперацыі і мясцовай прамысловасці, што ў большасці тлумачыцца, як дрэннай якасцю прадукцыі промкааперацыі, так і недастатковай ініцыятывай гандлюючых арганізацый па ўцягненню ў зварот прадметаў шырспажыва, вырабляемых мясцовай прамысловасцю.

Таксама ўстаноўлены выпадкі, калі рад арганізацый промкааперацыі не прытрымліваючыся планаў, устаноўленых Наркамунутгандлем па рэалізацыі прадукцыі промкааперацыі, збывае частку сваёй прадукцыі за межы БССР (Барысаўская швейная арцель і інш.), не выконваючы плана рэалізацыі ўнутры БССР, кіруючыся пры гэтым, у асобных выпадках гандлярскімі пабуджэннямі.

У мэтах устаранення ў далейшым падобнага роду недахопаў ва ўзаемаадносінах паміж гандлюючымі арганізацыямі і арганізацыямі промкааперацыі, правесці наступныя мерапрыемствы:

1. Арганізаваць на працягу 10—25 мая абследванне двух спецпромсаюзаў Менскага Тэкстыльшвейсаюза і Віцебскага Скурсаюза, а таксама 6-ці паасобных арцеляй розных промсаюзаў з пункту погляду:

а) выканання плана вырабу прадметаў шырспажыва, маючы на ўвазе пры гэтым праяўленне арганізацыямі промкааперацыі максімальнай ініцыятывы ў выяўленні закінутых вытворчасцяй тавараў шырспажыва, якія могуць быць адноўлены;

б) якасці і цэн прадукцыі;

в) пастаноўкі справы збыта прадукцыі (як выконваюцца дагавары, якім гандлюючым арганізацыям БССР прадана прадукцыя, які асартымент астаўлен для ўласнай сеці, што вывезена за межы БССР і т. д.).

2. Арганізацыю абследвання і кіраўніцтва гэтым абследваннем даручыць майму намесніку т. ВЕРБА.

Абследванне правесці з удзелам Белкаапромсовета, Белкаапсаюза і Белгандля.

3. Абавязаць т. ВЕРБА дагаварыцца з прэзідыумам Белкааппромсовета, Белкаапсаюза і Белгандля адносна ўкамплектавання спецыяльных брыгад з кваліфікаваных работнікаў для правядзення гэтага абследвання.

4. Абавязаць Горунутгандлі праверыць работу гандлюючых арганізацый па ўцягненню ў таваразварот прадукцыі промкааперацыі і іншых прадпрыемстваў мясцовай прамысловасці (нізавая прамысловасць РВК, кааперацыі інвалідаў і т. д.) з пункту погляду аказання арганізаванага ўздзейнічання на арганізацыі промкааперацыі і мясцовай прамысловасці па ўзмацненню вырабу прадметаў шырспажыва, палепшанню якасці гэтай прадукцыі, выяўленню магчымасцяй аднаўлення закінутых відаў вытворчасці прадметаў шырспажыва, на якія ёсць попыт і т. д.

Гор. райунутгандлі абавязаны гэтыя пытанні ставіць з усёй настойлівасцю перад Горсоветамі і Райвыканкомамі, дабіваючыся палепшання работы промкааперацыі і прадпрыемстваў мясцовай прамысловасці і ўзмацнення ўдзельнай вагі іх прадукцыі ў таваразвароце.

5. Лічыць устаноўленым:

а) што большасць гандлюючых арганізацый, не гледзячы на заключэнне дагавора, да гэтага часу не прынялі абсалютна ніякіх практычных мер кантроля рублём арганізацый промкааперацыі, якія парушаюць гэтыя дагавары, як з пункту погляду якасці, так і колькасці здачы прадукцыі;

б) што гандлюючыя арганізацыі, у першую чаргу Белкаапсаюз і Белгандаль, як правіла, яшчэ не паставілі перад Наркамунутгандлям ні аднаго канкрэтнага пытання аб дрэннай якасці прадукцыі той ці іншай арцелі промкааперацыі, або неправільнай работы промкааперацыі па збыту прадукцыі (выкананне дагавароў, асартымент, цэны і т. д.).

Звярнуць увагу кіраўнікоў гандлюючых арганізацый на неабходнасць арганізацыі ў сябе зусім канкрэтнага і апаратыўнага кантроля за ходам выканання промкааперацыяй дагавароў, за работай паасобных нізавых гандлюючых арганізацый па рэалізацыі прадукцыі промкааперацыі, ставячы абавязкова перад збытавым Канвенцыйным бюро Наркамунутгандля і перад Наркамунутгандлем усе пытанні, якія тармозяць максімальнае ўцягненне ў таваразварот прадукцыі промкааперацыі і мясцовай прамысловасці.

У прыватнасці, абавязаць кіраўнікоў гандлюючых арганізацый праверыць выбарачным парадкам ужыванне санкцый у адносінах да арганізацый промкааперацыі і мясцовай прамысловасці, якія парушаюць дагавары па збыту.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Гурэвіч**

# Да суровай адказнасці вінаватых у парушэнні пастановы СНК аб цэнах на абеды

## Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

11 мая 1935 г. № 218. г. Менск.

Праведзеным абследваннем Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыяй выканання пастановы СНК БССР ад 28 лютага 1935 года № 250 „Аб цэнах на абеды і школьныя снеданні“ 26 сталовых (23 рабочых і 3 студэнцкіх) г. Менска ўстаноўлена наступнае:

1. З правераных 26 сталовых аказалася, што большасць з іх не забяспечалі правядзенне рашэння СНК у жыццё, а загадчык сталовай хімфармзавода сусім не прыступіў да выканання гэтага рашэння.

2. Праверкай устаноўлена, што цэны на адпускаемыя абеды па раду сталовых груба парушаюцца. Так, сталовая малочнага завода (загадчык сталовай т. ГОЛУБ) адпускала гародніна-крупяныя абеды: 5 красавіка—па 75 кап., 6 красавіка—па 80 кап., 8 красавіка—па 84 кап., пры адзінай цане ў 70 кап. Сталовая хлебазавода (загадчык сталовай т. МЕЛІКОЎСКІ) адпускала абеды мяса-рыбныя: 20 сакавіка па 1 р. 18 к.—1 р. 13 к. пры адзінай цане ў 1 р. 10 к.

3. Побач з гэтым сталовая шчацінная фабрыкі (загадчык сталовай т. ФІТЭРШТЭЙН) адпускала абеды па 1 р. 10 к., у той час, калі паблюдна паказаны абед каштаваў бы 1 р. 05 к.

Устаноўлена, што рад сталовых не захоўвае ўстаноўленай пастановай урада колькасці мясных дзён (фабрыка „8 сакавіка“, фабрыка імя Кагановіча, шчацінная фабрыка) і, наадварот, пры фармальным захаванні колькасці дзён водпуска мясных абедаў, зменшалася колькасць мясных блюд за лік змяншэння норм прадуктаў на адно блюда, (перавыхад блюд—сталовая хлебазавода, друкарня ім. Сталіна); водпуск аднолькавых блюд разным катэгорыям па розным цэнам (друкарня ім. Сталіна).

4. Устаноўлена, што Белкаапхарчам за подпісам т. Мончыца была дана неправільная дырэктыва студэнцкім сталовым аб памяншэнні нормы закладкі мяса, а таксама аб спагнанні 2,5 кап. не толькі на парцыённае блюда, але і на ўсе ізгатоўленыя для ударнікаў ІТР і дыэтыкаў, абеды—што з'яўляецца прамым нарушэннем п. 7 пастановы СНК.

Народны Камісарыят Унутранага гандля БССР пастанаўляе:

1. Справу аб загадчыку сталовай хімфармзавода ВАРАКСА—за ігнараванне пастановы СНК—перадаць пракурору для прыцягнення да крымінальнай адказнасці.

2. Загадчыка сталовай фабрыкі імя Кагановіча ЯНКОЎСКАГА—за незахаванне ўстаноўленай колькасці дзён водпуска мясных абедаў, незахаванне норм закладкі прадуктаў, за складанне неправільнага і не поўнага меню, водпуск замест мясарыбнага абеда сялёдкі з бульбай—папярэдзіць, што калі ім не будуць прыняты меры да поўнага правядзення ў жыццё рашэння СНК, да яго будуць прыняты суровыя меры спагнання.

3. Прапанаваць Белкаапхарчу неадкладна адмяніць незаконнае распараджэнне, дадзенае студэнцкім сталовым аб змяншэнні норм закладкі мяса і аб спагнанні 2,5 кап. на ўдарныя, ІТР'аўскія і дыэтычныя абеды.

4. Даручыць Белкаапхарчу налажыць строгае дысцыплінарнае спагнанне на загадчыкаў сталовымі, дапусціўшых грубае парушэнне пастановы СНК і прыняць меры да недапушчэння такіх парушэнняў у далейшым.

5. Звярнуць увагу кіраўніцтва Белкаапхарча і ОРС'аў на тое, што з іх боку не прыняты адпаведныя меры па кантролю за правядзеннем у жыццё рашэнняў СНК.

6. У звязку з наяўнасцю выпадкаў перадачы дырэктарам малочнага завода цукру вытворчага прызначэння ў сталовую—даручыць т. БАСКІНУ разглядзець гэтае пытанне па адміністрацыйнай лініі і такога рода абязлічку фондаў у далейшым спыніць.

7. Даручыць Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі на працягу трох дзён разам з т. БЕРХІНЫМ дагаварыцца з адпаведнымі фабзаўкомамі (абследваных сталовых) аб пастаноўцы і абмеркаванні на агульных сходах рабочых выяўленых парушэнняў пастановы СНК з боку адміністрацыі сталовых.

8. Даручыць т. т. ТОЛКАЧОВУ і БЕРХІНУ шырока асвятліць праз друк ітогі абследвання, а таксама абмеркаванне гэтых пытанняў на агульных цэхавых сходах рабочых.

9. Прапанаваць Горунутгандлям Менска, Віцебска, Гомеля, Бабруйска, Магілёва, Барысава, Рэчыцы, Мозыра, Оршы, Полацка, Чашнікаў, Добруша, Шклова і інш. неадкладна праверыць выкананне рашэнняў СНК „Аб адзіных цэнах на масавыя абеды“. Праверка павінна быць праведена шляхам арганізацыі брыгад з рабочых прадпрыемстваў, з безумоўным абмеркаваннем матэрыялаў абследвання на цэхавых агульных сходах рабочых і абавязковай іх дасылкай у Наркамунутгандль.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

## Аб якасці прадукцыі, выпускаемай Гомельскай арцеляй глуханямых і Магілёўскай фабрычна-працоўнай калоніяй.

**(З пастановы Канвенцыйнага Бюро пры Наркамунутгандлі БССР)**

1. забараніць Гомельскай арцелі глуханямых выпрацоўваць і выпускаць у продаж туфлі „спорт“ з галантарэйнага „гралікса“ на гумавай падэшве. Маючыяся загатоўкі скарыстаць выключна на выпрацоўку комнатных туфель „вывароткі.“

2. Прапанаваць усім арцелям глуханямых безадкладна прадставіць Канвенцыйнаму Бюро Наркамунутгандля узоры і падрабязную калькуляцыю на вырабы, на якія няма зацверджаных цэн.

3. Адзначыць безадказныя адносіны з боку ОРС'а Наркамместпрома да пытанняў цэн, якасці прадукцыі, рэалізуемай ў гандлёвай сеці Наркамместпрома, якія выразіліся ў тым, што універмаг № 1 (Менск) прадаваў мужчынскія бацінкі выпрацоўкі Магілёўскай фабрычна-працоўнай калоніі НКУС вельмі нізкай якасці і па нікім не ўстаноўленым спекуляцыйным цэнам—32 р. 45 к. за пару пры фактычнай іх каштоўнасці 10—12 руб.

Прапанаваць начальніку ОРС'а Наркамместпрома т. СУЛЬКІНАЙ:

а) прыцягнуць да адказнасці непасрэдных вінаватых, дапусціўшых продаж указаных бацінак у універмагу № 1 для ўдарнікаў;

б) не адкладна пераацаніць паказаныя бацінкі, згодна прэйскуранта Сампрамкаапрацыі.

4. Давесці да ведама Упраўлення месцамі заключэння, што да сённяшняга дня Віцебская і Магілёўская працоўныя фабрычныя калоніі не зацвердзілі цэн і ўзораў у Канвенцыйным Бюро на вырабы сваёй вытворчасці.

Прапанаваць Упраўленню месцамі заключэння НКУС неадкладна прадставіць матэрыялы Канвенцыйнаму Бюро (узоры і падрабязныя калькуляцыі на вырабы сваёй вытворчасці)—на зацьверджанне.

Нам. старшыні Канвенцыйнага Бюро
Наркамунутгандля БССР **І. Верба**

## Аб зацверджанні палажэння аб сектары таварных экспертыз пры Белтавараюро

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

5 мая 1935 г. № 203 г. Менск.

У выкананне пастановы Совета Народных Камісараў БССР ад 5 красавіка 1935 г. за № 499, Народны Камісарыят Унутранага Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Прадстаўлены Белтаварбюро праект палажэння аб сектары таварных экспертыз, узгоднены з НКФ БССР, і аплату, узімаемую за экспертызу зацвердзіць.

2. Заключэнне па актам сэктара таварных экспертыз з'яўляецца канчатковым для бакоў. У паасобных выпадках, калі з аднаго ці двух бакоў будуць абгрунтаваныя сур'ёзныя супярэчанні па акту і заключэнню сектара таварных экспертыз, спрэчнае пытанне належыць абскарджанню Наркому Унутранага Гандля, пасля чаго рашэнне з'яўляецца канчатковым.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

## Бюро спроса и предложения товаров при Наркомвнуторге БССР

г. Минск, Советская ул. Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 415, тел. 22-540. Адрес для телеграмм — МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской конторе Госбанка № 160/10076.

# ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

Мед паточный искусственный 20 тн.—2530 руб. тонна, франко производства, расчет акцептом.

Паточный мед 25 тн., 2500 руб, тн., франко склад, расчет акцептом.

Жолуди сырые 1,5 тонны—300 руб. тн., расчет акцептом.

Павидло 1-сорта 50 тн.—3100 руб. тн., франко склад, расчет акцептом.

Варенье „Джемс"—10 тн.,—3800 руб. за тонну, расчет акцептом.

Искуствен. паточный мед 50 тн.,—2400 руб. тн., франко склад продавца, расчет акцептом-

Патока огневая 10 тн.—1900 руб. тн. франко склад артели, расчет акцептом.

Овощи сушенные не стандартные: картофеля 52 тн., капусты—5 тн., морквы 2800 кгр., свеклы 2000 кгр. и лука 200 кгр. из брони—3200 руб. тн. франко вагон. станц. отправления. Вся партия товара неделима.

Уксус спиртовый 10.000 литров—1 руб. за литр, франко склад расчет акцептом.

Соль молотая столовая фасованная—20 тн.—1 руб. кгр. в пачках, маркированная в ящиках по 50—60 кгр. по 260 руб. тн., франко склад, расчет акцептом.

Груши сушенные кавказ. дичка—1700 руб. тн. не сортирован. тоже 2.000 руб. тн. сортирован., всего 12 тонн, расчет акцептом.

Павидло яблочное 10 тн., 2900 руб. тн. франко вагон станц. отправления, расчет акцептом, тоже ягодно—черничное 5 тн. по той—же цене.

Искуственный жемчуг—70000 низок—2 руб. 36 к. низка.

Бусы комбинированные—4200 низок—2 руб. 60 к. низка.

Шахматные доски фанерные складные—15000 шт. 51 к. штука.

Рамки для фото-открыток, настольные—5.000 шт—1 руб. 93 к. шт.

Мыло жидкое минеральное темного цвета—15 тн. 900 руб. тонна, расчет акцептом.

Мыло специальное техническое кусковое—60000 кусков по 200—220 гр. — 22,5 коп. кусок, франко склад артели, расчет акцептом или аккредитив.

Чуни веревочные, 50000 пар—3 руб. 50 к. пара, расчет акцептом.

Конторский клей жидкий — 20000 бутылок — 1 руб. 62 к. бут. франко склад продавца.

Чернила фиолетовые и красные—20.000 бутылок—80 к. за бут. 0,5 литров, франко склад продавца, расчет акцептом.

Динамо машина постоянного тока — 14,5 квт. 8.000 руб. расчет аккредитивом.

Нефтедвигатель завода „Руско-Балтийского“ 20 НР вертикальн. 10.000 руб.

Сажа полулегкая—100 тон.—750 руб. тон. франко вагон станция отправления, расчет аккредитив против счетов ж. д. документов.

Замки висячие железные, разные от 70 к. до 2 руб. 60 к. шт. франко склад продавца, расчет акцептом.

Бочко-тара дубовая, колотой клепки на железных обручах от 3 ведер до 30-ти—15 руб.—60 руб, за бочку, франко склад продавца расчет акцептом.

Уголь древесный сосновый—2.000 тон.—274 руб. тонна франко вагон станция отправления, расчет акцептом.

Уголь твердых пород 1.000 тон.—280 руб. тонна, франко вагон станция отправления, расчет акцептом.

Скипидар белый 10 тн.—2 200 руб. тонна, франко склад, расчет аккредитивом.

Деготь искусственный—30 тн.—650 руб. тн., франко вагон, расчет акцептом.

Шохор 30 тн., 500 руб. тонна, франко вагон, расчет акцептом.

Корзины лучинные разных размеров—31 к.—1 руб. 60 к. штука расчет акцептом.

Тарная дощечка хвойных пород в комплектах—100 куб. м.—от 126 руб. 43 к. до 149 руб. 98 к., франко вагон станция отправления, расчет 50% акцептом и 50% аккредитивом.

Гонт кровельный по 50 руб. 10 к. за тысячу—108.000 комплектов франко вагон и пристань, расчет—50% аккредитивом и 50% акцептом.

Корыта осиновые емкостью 2—3 ведра—6 руб. 80 к. шт.—франко пристань, расчет аккредитивом.

Драрь штукатурная сосновая — 500 000 шт. — 21 руб. 87 к. тысяча франко склад, расчет—50% аккредитивом и 50% акцептом.

Колеса неокованные под дерев. ход—300 стан—57 руб. 20 к. за стан, франко дубликат станция отправления, расчет акцептом.

Обычайка сосновая—900 коп—32 руб. за копу, франко вагон станция отправления, расчет акцептом.

Решета тарные ягодные—4000 шт.—1 руб. 98 к. шт. франко вагон станция отправления, расчет акцептом.

Обапол от шпальн. доски 12 вагонов обапола, досок 150 куб. м.—по 29 к. за штуку обапола, франко вагон. Доски—83 руб. 70 к. I-го сорта за куб. м., 74 руб. 25 к. II-го сорта за куб. м. и 50 руб. III-го сорта за куб. м.

## Спрос товаров

Шорные изделия, кисти малярные, разная спецодежда, грузовая машина—2—2,5 тонн системы Форд или АМО, локомотив до 30 лош. сил на ходу, 2 станка для прессовки кирпича, динамо 3—4 сил 220 вольт, метил фиолетовый, бакан сухой, киноварь, жидкое стекло, кармарин, канифоль, аллюминевые квасцы, окись марганца молотоя, перекись марганца, свинцовый гнет, сода кальцинированная, тоже каустическая, отход от саломасла, прогорливое масло, индиго, кармарин, воск пчелинный натуральный, парафин, нигрозин, сани крестьянские, полозья дубовые, обод дубовый и ясеневый, спица дубовоя и ясеневая, детские салазки, деревянные лопаты, деревян. корытаночевки, метла березовая, оглобли и дручки березовые, рогожи и рогожные кули, лак асфальтовый, гуталин черный и желтый, технический рыбий жир, отходы от рыбьего жира, живица, галолит цветной, целлулоид, клей столярный в плитках, картон разный, оберточная бумага, фуза, саломазь, соляная кислота, краски анилиновые не фасованные, сода для белья не фасованная, рога крупного рогатого скота, пеньковые и льняные отходы, железо сортовое разное, тоже листовое, проволока разная, отходы сортового и листового железа, железо упаковочное, мерный и весовой лоскут х/б, резина для подошвы, корзины дорожные багажные ,бочка дубовая на железных обручах, пиломатериал, тарные ящичные комплекты разные, бочковая клепка, скипидар белый, лимонный, смола сосновая, деготь березовый, галипот, пек сосновый, клейбомасса, ворваль, круглый лес.

## Паведамленне Дзяржарбітража і Белтаварбюро

Дзяржаўны арбітраж пры СНК БССР і Белтаварбюро пры Наркамунутгандлі БССР паведамляюць усе гандлюючыя і вытворчыя арганізацыі, што пастановай СНК БССР ад 5 красавіка 1935 года і загада Наркамунутгандлю БССР, пры Белтаварбюро арганізаван сектар таварнай экспертызы па вызначэнню якасці, асартымента, камплектнасці, стандартнасці і маркіроўкі ўсіх відаў тавараў і іх суадпаведнасць дагаворным умовам.

Таму па ўсякім пытанням, якія датычацца ўстанаўлення эксертызы, належыць зварочвацца ў сектар таварнай экспертызы Белтаварбюро (Менск, дом урада, левае крыло, 4-ы паверх, пакой № 415, тэлефон № 22-540).

Заключэнне экспертызы мае законную сілу і абавязкова для бакоў адпаведна інструкцыі Дзяржарбітража СНК СССР ад 2 студзеня 1935 года.

Галоўарбітр пры СНК БССР **Несцер**

Начальнік Белтаварбюро **Брэль**

Выданне Наркамунутгандлю БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Д. Аллерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 580. Тыраж 1300 экз. Галоўлітбел № 3075.